ГРОДНА
№3 (555),
7 лютага 2021

СЛОВА ЖЫЦЦЯ
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Аздараўленне Хворых



*Сакрамант намашчэння хворых умацоўвае чалавека, дадае сіл і дазваляе захоўваць хрысціянскую паставу падчас цярпення.*

на староньцы 2

## Старэйшы салезіянін Беларусі адзначыў юбілей



*85-годдзе кс. каноніка Здзіслава Вэдэра SDB адзначылі 22 студзеня ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні.*

на староньцы 4

## Пазіраючы назад, ідучы наперад



*Кс. біскуп Юзаф Станеўскі распавядае пра важныя падзеі з 7-гадовага перыяду сваёй біскупскай паслугі.*

на староньцы 6

# З ЛЮБОЎЮ ДА БОГА, З КАХАННЕМ АДЗІН ДА АДНАГО




**Св. Валянцін вядомы не толькі ў супольнасці Касцёла, але і ва ўсім свеце. Асаблівую папулярнасць ён набыў у закаханых пар, бо лічыцца іх нябесным заступнікам. Пра тое, ці існуе "другая палоўка" і якую ролю займае Божы Провід у перасячэнні жыццёвых шляхоў дзвюх асоб, распавядаюць маладыя сужэнствы.**

на староньцы 3

# ХРЫСТОС, ПРЫГАЖОСЦЬ І ПРАВІЛЫ ЭТЫКЕТУ

**„Выхаванне – гэта справа сэрца", – сказаў аднойчы св. Ян Боско, вядомы ў супольнасці Касцёла як "бацька і настаўнік" для моладзі. Гэтыя словы знаходзяць водгук у новай ініцыятыве салезіянскай супольнасці ў Смаргоні. Там пры мясцовай парафіі арганізавалі клуб для дзяўчат "Нашы сакрэты".**




*С. Вераніка Блізнюк, адна з заснавальніц клуба, падчас яго ўрачыстага адкрыцця*

на староньцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

Бог, ствараючы чалавека па сваім вобразе і падабенстве, стварыў яго з любові і дзеля любові. Гэта найважнейшая асаблівасць, якая адрознівае нас ад іншых істот. Любові трэба вучыцца. Дзіця вучыцца ёй у маці і бацькі, якія яго кормяць, песцяць, абдымаюць. Так маленькі чалавек упершыню спазнае любоў, засвойвае яе на ўсё жыццё.

Пазней дзіця робіць першыя ўласныя крокі ў напрамку любові. Выражае сваю прыхільнасць, абдымаючы маці за шыю і прытуляючыся да бацькі. Яшчэ пазней хлопцы заўважаюць дзяўчат, дзяўчаты – хлопцаў. Нейкая таямнічая сіла прыцягвае іх адзін да аднаго. Яны хочуць гаварыць, быць побач. І па-новаму адчуваюць, што значыць любіць.

Аднак для хрысціяніна здольнасць любіць ніколі не была чымсьці набытым раз і назаўсёды. Кожны дзень трэба пачынаць спачатку, трэба практыкавацца, каб наша любоў да братоў і сясцёр, якіх сустракаем, станавілася больш сталай і ачышчалася ад тых абмежаванняў ці грахоў, якія робяць яе прадузятай, эгаістычнай, бясплённай і няверная.

Мусім вучыцца мастацтву любові кожны дзень: цярпліва развівацца ў школе Хрыста, прабачаць адзін аднаму, гледзячы на Езуса. І рабіць гэта з дапамогай таго Абаронцы і Суцяшальніка, якога нам паслаў Бог – Яго Духа.

Няхай Панна Марыя, дасканалая вучаніца свайго Сына і Госпада, дапаможа нам быць усё больш і больш паслухмянымі Суцяшальніку, Духу праўды, каб кожны дзень вучыцца любіць так, як палюбіў нас Езус.



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**10 лютага**

***Успамін св. Схаластыкі, панны.***

*Св. Схаластыка, сястра-блізнятка св. Бенедыкта, нарадзілася ў Норчы ў рэгіёне Умбрыя (Італія) каля 480 года ў заможнай хрысціянскай сям'і. Жыццё Схаластыкі было адзначана своеасаблівым захапленнем і перайманнем учынкаў брата. Спачатку яна суправаджала яго ў падарожжах, наследуючы аддавасць Богу. Калі Бенедыкт заснаваў першы манастыр у Субіяка, яго сястра заснавала ордэн для жанчын, які грунтаваўся на тым жа прынцыпе. Схаластыка памерла 10 лютага 547 года і была пахавана ў Монтэ-Касіна. Лічыцца духоўнай маці ўсіх жаночых бенедыктынскіх кляштараў і тых, што выводзяцца з бенедыктынскіх адгалінаванняў. За абаронай да яе звяртаюцца падчас маланкі, бур і віхур.*

**11 лютага**

***Сусветны дзень хворых.***

*Сусветны дзень хворых адзначаецца ў літургічнае свята Маці Божай Лурдскай і быў устаноўлены папам Янам Паўлам II 13 мая 1992 года – у 75-ую гадавіну фацімскіх аб'яўленняў і 11-ую гадавіну замаху на жыццё святога Папы. Гэты дзень – магчымасць адкрыць усё багацце факта, што Хрыстос, клапоцячыся пра фізічнае, псіхічнае і духоўнае здароўе чалавека, пакінуў нам спецыяльны сакрамант намашчэння. Варта асаблівым чынам дзякаваць Хрысту за яго поўную любові памяць пра ўсіх хворых. А калі нас саміх закранаюць – незалежна ад узросту – нейкія пакуты, папросім аб удзяленні сакраманту намашчэння. Гэта глыбокі рэлігійны досвед, які ўмацоўвае чалавека, дадае сіл і дазваляе захоўваць хрысціянскую паставу падчас цярпення.*

**15 лютага**

***Успамін бл. Міхала Сапоцькі, святара.***

*Міхал Сапоцька нарадзіўся 1 лістапада 1888 года на Віленшчыне. Пасвечаны ў святары, ён заўзята працаваў у парафіяльным і ваенным душпастырстве, адначасова развіваючы адукацыйную і грамадскую дзейнасць. Шмат гадоў быў прафесарам і выхавальнікам духоўных семінарый у Вільні і Беластоку. Жывучы ідэаламі святарскай святасці, вельмі клапаціўся аб фармацыі ксяндзоў. Як спаведнік і духоўны кіраўнік с. Фаўстыны Кавальскай стаў Апосталам Божай Міласэрнасці, імкнучыся афіцыйна зацвердзіць гэты культ. Заснаваў Кангрэгацыю Сясцёр Езуса Міласэрнага. Памёр 15 лютага 1975 года ў Беластоку.*

**17 лютага**

***Распачацце Вялікага посту. Папяльцовая серада.***

*Папяльцовая серада распачынае ў Каталіцкім Касцёле перыяд Вялікага посту – час пакаяння, які рыхтуе да перажывання найважнейшых для хрысціян Велікодных свят. Ён ахопілівае літургічны перыяд ад Папяльцовай серады да Вялікага чацвярга. Вялікі пост у Касцёле лічыцца часам пакаяння і навяртання. Яго рэкамендацыі – пост, міласціна і малітва. У гэты час з літургіі знікаюць радасныя "Алелюя" і "Хвала на вышынях Богу", а колер літургічнага адзення становіцца фіялетавым. Важным элементам, прысутным у касцёле і ў іншых парафіях, з'яўляецца спяванне пакаянных песень аб навяртанні і хрышчэнні, а таксама велікапосных песень падчас набажэнстваў Мукі Пана: Песень жальбы і Крыжовага шляху.*

# АЗДАРАЎЛЕННЕ ХВОРЫХ

працяг са с. 1

**У Ларэтанскай літаніі адорваем Марыю шматлікімі тытуламі. Кожны з іх мае сваю гісторыю і сваё значэнне, прадстаўляе іншы аспект прыгажосці Марыі, у якой заўсёды захапляемся не столькі Ёю самой, колькі творам ласкі Божай.**

*Кс. Юрый Марціновіч*





Выява Маці Божай Аздараўлення Хворых

Маці Езуса нагадвае нам, што Бог – Той, хто дзейнічае. Ён Аўтар усіх цудаў, Крыніца ласкі, Творца, Збаўца, Аздараўленне. Але Ён настолькі вялікі, што не баіцца падзяліцца сваёю моцай. Бог запрашае людзей да супрацоўніцтва ў справе збаўлення. Заклікае іх быць "каналамі" Яго ласкі, працягам рук. Каб свяцілі Яго святлом, як месяц, які адлюстроўвае святло сонца. Марыя знаходзіцца ў першым шэрагу вялікіх супрацоўнікаў Бога. Ні адзін з тытулаў, прысвоеных Ёй, не закліканы засланіць Найвышэйшага, але павінен скіроўваць да Яго. Павінен раскрываць веліч Яго любові да чалавека.

Адзін з тытулаў Марыі – "Аздараўленне Хворых". Ён з'явіўся ў Касцёле ў XVI стагоддзі, і першапачаткова быў звязаны з рымскім касцёлам св. Марыі Магдаліны, дзе знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай Аздараўлення Хворых. Святыня была сядзібай ордэна камільянаў – манахаў, якія служылі хворым. У марыйнай набожнасці тытул Марыі Аздараўлення Хворых набывае ўсё большую папулярнасць. Гэтаму спрыялі цудоўныя ацаленні, вымаленыя ў Лурдзе і ў многіх іншых марыйных санктуарыях.

Калі мы называем Марыю "Аздараўленнем Хворых", выказваем сваю веру ў Яе апеку над хворымі і пакутуючымі, а таксама ў тое, што Яе малітва да міласэрнага Бога можа выпрасіць ласку вылячэння.

Св. Ян Павел II штогод абвяшчаў спецыяльнае пасланне на Сусветны дзень хворых, які ён устанавіў у Паўсюдным Касцёле ў 1992 годзе – да 75-годдзя фацімскіх аб'яўленняў і 11-ай гадавіны замаху на сваё жыццё.

У энцыкліцы "Redemptoris Mater" Ян Павел II тлумачыць, чаму мы можам прыходзіць да Марыі ў хвіліны нашых пакут, чаму маем поўнае права называць Яе "Аздараўленнем Хворых". Папа падкрэслівае, што трэба спалучыць дзве сцэны з Евангелля паводле св. Яна. Першая з іх – вяселле ў Кане Галілейскай. Там Марыя заўважае цяжкае становішча маладой пары, бачыць іх нястачу. Віно ў Бібліі з'яўляецца сімвалам радасці, любові і збаўлення. Маці ўцягвае ў справу Сына. Просіць Яго выправіць балючую сітуацыю, прыняць меры.

Другі важны тэкст з Евангелля паводле св. Яна, які трэба звязаць з тытулам "Аздараўленне Хворых", – гэта апісанне смерці Езуса. Марыя стаіць пад крыжам свайго Сына. Тады самым балючым чынам здзяйсняецца прароцтва Сімяона: "А праз тваю душу пройдзе меч" (Лк 2, 35). Марыя – Балесная Маці, Яна ведае смак цярпення. Яе прысутнасць пад крыжам не пасіўная. Маці Божая не з'яўляецца гледачом, а пакутуе разам са сваім Сынам. Духоўна паміарае разам з Ім. Такім чынам, Яна таксама ўдзельнічае ў адкупленні свету і кожнага з нас.

"Аздараўленне Хворых" па-лацінску гучыць як "Salus infirmorum". Слова "salus" – гэта не толькі "здароўе", але і "збаўленне". Гэта важна, таму што мы не павінны прасіць Марыю толькі аб вылячэнні ад хваробы. "Salus" азначае аздараўленне не толькі цела, але і душы. Найсвяцейшая Маці хоча выратавання ўсяго чалавека.

**Калі мы называем Марыю "Аздараўленнем Хворых", выказваем сваю веру ў Яе клопат пра хворых і пакутуючых.**

Калі мы глядзім на Марыю, якая стаіць пад крыжам, вучымся чамусьці вельмі важнаму. Вучымся таму, што ёсць такое цярпенне, якога не ўдасца пазбегнуць. І нават нельга. Ёсць такая любоў, якая патрабуе згоды на боль. Вернасць Богу, вернасць у любові не аднойчы патрабуе ад нас вытрываць пад крыжом да канца. Гэтак жа, як і Яна.

Не кожную хваробу можна перамагчы. Калісьці мы апынёмся на фінішнай прамой мінучага жыцця. На нас абрынецца хвароба, якая прывядзе да смерці. У такой сітуацыі, звяртаючыся да Марыі Аздараўлення Хворых, мы просім Яе аб збаўленні. Аб тым, каб была суцяшэннем у хвіліны развітання з гэтым светам і знакам надзеі на вечнае шчасце. Калі молімся пры паміраючых, просім Марыю аб ласцы добрай смерці. Просім аб дары прыпадабнення да Хрыста, які канае на крыжы. Сэнс у тым, каб паміраць у згодзе з Богам і людзьмі.

Няхай Марыя навучыць нас апошняму і самаму важнаму "Fiat" – перад тварам смерці здолець сказаць: "Няхай споўніцца Твая воля". Няхай Яна будзе побач з кожным пакутуючым як спагадлівая Маці, як Тая, хто любіць, суцяшае, абдымае, выцірае лоб, трымае за руку, указвае на Неба. Няхай Яе прысутнасць, Яе любоў і малітва будуць лякарствам і нашым аздараўленнем, г. зн. збаўленнем.

# З ЛЮБОЎЮ ДА БОГА, З КАХАННЕМ АДЗІН ДА АДНАГО

працяг са с. 1

Ангеліна Марцішэўская

**Бажэна і Максім Чарнецкія**

*Наша знаёмства з Максімам пачалося ў пілігрымцы. Калі ўзгадваю абставіны сустрэчы, разумею, што яна была наканавана звыш. У 2011 годзе я ўпершыню вырашыла пайсці ў паломніцтва Гродна–Рось, да цудадзейнай фігуры Езуса Журботнага. Аднак напярэдадні збораў аказалася, што ніводная з сяброак не можа скласці мне кампанію, а адну мяне не пускалі бацькі, бо была непаўналетняя і здалёк – з Індуры. Я засмуцілася, але літаральна ў апошні момант мяне выручыла адна дзяўчына. Так Езус Журботны здзейсніў цуд ужо на самым пачатку – насуперак абставінам я аказалася ўдзельніцай паломніцтва!*

*З будучым мужам пазнаёмілася ўжо пасля галоўных роскіх урачыстасцей, па дарозе на начлег. Была ноч, і з-за цемры мы амаль не разглядзелі твары адзін аднаго, але нягледзячы на гэта, адчулі ўзаемную сімпатыю. Раніцай, вяртаючыся ў Гродна на аўтобусе, ужо разам спявалі набожныя песні, а на наступны дзень танцавалі “бельгійку” падчас забаўляльнай сустрэчы для ўдзельнікаў паломніцтва. Так і пачалі кантактаваць. Максім прыязджаў да мяне ў Індуру. Амаль усе сустрэчы праходзілі на прыкасцёльнай тэрыторыі: там адбываліся першыя шчырыя размовы, там здарыўся і першы пацалунак... Праз паўгады ён прызнаўся ў любові, але я з прызнаннем вырашыла крыху пачакаць. Бо каханне – гэта штосьці вытрыманае, правераное часам або выпрабаванаміі.*

*У гісторыі нашых адносін важнае месца займае адзін эпізод. Праз тры гады пасля таго, як мы з Максімам сталі парай, я пазнаёмілася з пэўнай манскай супольнасцю... і захахалася ў лад жыцця сясцёр. Яны заўсёды былі радаснья, светліся прыгажосцю, нястомна славілі Бога танцам і спевам. Мяне пачалі няспынна агортваць думкі, каб пайсці ў кляштар. Калі падзяліліся з Максімам, ён заплакаў. Упершыню ўбачыла яго слёзы. Пачала шмат маліцца аб распазнанні жыццёвага шляху і адночы, молячыся Святым Пісаннем, вырашыла адкрыць старонку Біблії наўгад. І трапіла на словы з Кнігі прарока Ераміі: “Ці доўга табе бадзяцца, адпалая дачка? Бо Гасподзь стварыў на зямлі нешта новае: жонка выратуе мужа” (Ер 31, 22). Усе сумненні адразу зніклі, а далейшы лёс быў вызначаны.*

*Трапяткія ўспаміны выклікае і момант, калі Максім рабіў прапанову. У той час я знаходзілася ў невялікім мястэчку ў Польшчы на місіях, куды была запрошана сваім сябрам і духоўным настаўнікам дамініканцам а. Томашам Мікам OP. На працягу тыдня я давала сведчанні, арганізоўвала малітву, збірала ахвяраванні на адпачынак для моладзі. Пасярод усіх турбот прыехаў Максім і запрасіў мяне ў рэстаран. А. Томаш не пусціў мяне туды, бо была пад яго апекай, але я нават усцешылася. Адчувала, што Максім хоча прапанаваць руку і сэрца, а сустрэча ў рэстаране падавалася надта бальнай. У выніку спаткаліся мы ля касцёла: быў позні вечар, а на вуліцы пачынаўся ўраган. Ці не рамантыка? Максім працягнуў у падарунак фотаальбом, у якім павінны былі пачаць фіксаваць новы этап свайго жыцця, а з альбома выпаў пярсцёнак і пакаціўся... Напужаліся, але знайшлі.*

*Падчас шлюбу мы абодва былі шчаслівыя, бо ведалі: калі ў сужэнстве на першым месцы Бог, то і сямейнае жыццё будзе ўдалае. Сёння маем ужо супольны плён: цудоўная сына Адрыяна і невялічкі бізнес. Праз інстаграм-старонку “Буцік БоБо” прадаём аўтарскія постэры, паштоўкі, календары і кубкі з хрысціянскай тэматыкай. Я займаюся распрацоўкай дызайна, а Максім – усімі арганізацыйнымі справамі. Усё на хвалу Пана!*

**Вікторыя і Міхаіл Петрусевічы**

*Нас пазнаёміў мой стрыечны брат. Гэта быў 2014 год. Я збіралася набыць сабе новую тэхніку і патрабавала кансультацыі, а брат параіў Мішу, свайго сябра, як добрага спецыяліста ў камп’ютэрнай сферы. Паступова пачалі больш актыўна перапісвацца ў сацсетках і зразумелі, што ўзнікла сімпатыя – мы былі “на адной хвалі”. Пасля знаёмства афлайн прыйшло і яно самае – каханне. У 2016 годзе паляшук Міхась упершыню ступіў на гродзенскую зямлю... і застаўся тут!*

*Цукеркава-букетны перыяд цалкам апраўдаў сваю назву: кожная хвіліна была напоўнена рамантыкай. Букет валошак пры першай сустрэчы, парныя вышымайкі* (адмысловыя майкі з беларускім арнаментам – заўв. аўт.)*, экскурсіі па Гродне і шмат чаго іншага зрабілі нашы сустрэчы вельмі ўзнёслымі.*

*Зразумела, што з асаблівым трапятаннем я ўзгадваю момант, калі Міхась зрабіў прапанову рукі і сэрца. Быў цёплы травеньскі вечар. Мы адправіліся на шпацыр пасля прагляду тэатральнай пастаноўкі “451° па Фарэнгейту”, дзяліліся ўражаннямі ад убачанага. Дайшлі да Каложскай царквы, і раптам Міхась становіцца на адно калена і просіць стаць яго жонкай. Быццам пад замову над намі вельмі голасна спяваў салавейка...*

*Праз два месяцы мы зладзілі вяселле. Першапачаткова вельмі важнае значэнне надавалі не рэгістрацыі ў ЗАГСе, але шлюбу ў касцёле. Папярэдне папрасілі ў арганіста сыграць на св. Імшы “Магутны Божа” – духоўны гімн Беларусі. Ён гучаў надзвычай урачыста, і я дагэтуль маю мурашы на скуры ад успамінаў. Сама клятва вернасці атрымалася вельмі ўзнёслай. Я пасля доўга не магла адысці ад эмоцый, а многія фотаздымкі са святыні атрымаліся з нявестай-плаксай.*

*За нашу гісторыю кахання я ўдзячна Нябеснаму Айцу. Яшчэ да знаёмства з Міхасём даведалася пра малітву да св. Юзафа аб добрым мужы. На працягу года з поўным даверам старанна адгаворвала яе. І на маім шляху ўзнік хлопец, вобраз якога мела ў галаве – менавіта такі, аб якім прасіла. І як не паверыць у Божы цуд пасля гэтага? Дарэчы, муж таксама заўсёды маліўся аб тым, каб Бог дапамог яму сустрэць добрую жонку.*

*Пра падзяку святому заступніку мы таксама не забыліся. У нас нарадзіўся сын, якога назвалі Міхаіл-Юзаф. Ён таксама ўжо паспеў стаць хрысціянінам праз прыняцце сакраманту хросту. Жыццё ідзе сваёй чаргой. І мы верым, што без Божай дапамогі ўсё было б па-іншаму.*

**Бажэна і Дзяніс Трусевічы**

*Наша гісторыя кахання пачалася ў пілігрымцы Гудагай–Будслаў у 2011 годзе. У паломніцтве я амаль нікога не ведала, бо дагэтуль заўсёды хадзіла ў Будслаў з Баранавічаў. Таму мы з сяброўкай вырашылі пакрысе знаёміцца з удзельнікамі. Я прапанавала пачаць з хлопца-рэгуліроўшчыка, а калі падышла да яго, убачыла, што сяброўкі побач няма. Прывіталася, але хлопец аказаўся негаваркім – назваў толькі імя ды адкуль паходзіць. Зрабіўшы яго фота (бо заўсёды здымала ў пілігрымках), вярнулася да сяброўкі. Да апошняга дня паломніцтва мы больш не перасякаліся.*

*Аднак на заканчэнне Будслаўскіх урачыстасцей, калі развіталіся, Дзяніс сказаў, што знойдзе мяне ў сацыяльных сетках. Так і пачалі кантактаваць анлайн. Праз два тыдні сустрэліся зноў на Гудагайскім фэсце, дзе вельмі хутка прыйшло ўсведамленне, што мы закахаліся адзін у аднаго. Прызналіся ў любові адразу ж, і цяпер, гледзячы на нашу сям’ю, разумеем, што не паспяшаліся.*

*Падчас цукеркава-букетнага перыяду было шмат рамантычных момантаў. Улічваючы, што жылі на адлегласці (я з Брэста, а ён з Гудагая), Дзяніс часта рабіў сюрпрызы з прыездам і заўсёды прывозіў безліч маіх любімых слодычаў. А самы важны момант – калі мы заключылі маленькую дамову ў самым пачатку адносін: папрасілі аб узаемнай сумленнасці. Мяркую, гэта і стала залогам моцнай сям’і, нягледзячы на ўсе цяжкасці.*

*Дзяніс зрабіў мне прапанову ва ўрачыстасць Маці Божай Шкаплернай праз пяць гадоў пасля знаёмства. Гэта было вельмі сімвалічна, бо атрымалася, што Маці Божая Будслаўская нас “пазнаёміла”, а Маці Божая Гудагайская – “аджаніла”. Бралі шлюб з поўным даверам Божаму плану, прамаўляючы клятвы і гледзячы адзін аднаму ў вочы.*

*Без Бога не было б нічога ў нашым сумольным жыцці – толькі Ён мог усё так геніяльна прадумаць. У тым далёкім 2011 годзе ані я, ані Дзяніс не збіраліся ў паломніцтва Гудагай–Будслаў, аднак амаль у апошні момант усё склалася інакш. І ў выніку атрымалася цудоўна!*

*Цяпер мы штогод ходзім у пілігрымку ў санктуарый Маці Божай Будслаўскай з падзякай за нашу сустрэчу, часта наведваемся туды і без асаблівай нагоды, бо адчуваем, што там месца нашай моцы! А апошнім часам крочылі туды з нашымі маленькімі цудамі – дочкамі Эліянай і Арыянай.*

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Сусветная міжрэлігійная канферэнцыя пройдзе ў Расіі

Расія ў 2022 годзе прыме Сусветную канферэнцыю па міжрэлігійным і міжэтнічным дыялогу пад эгідай ААН. У бліжэйшы час будзе вызначаны горад, дзе яна пройдзе.

Маштабны форум адбудзецца 21 мая і будзе прымеркаваны да заснаванага Генеральнай асамблеяй ААН Сусветнага дня культурнай разнастайнасці ў імя дыялогу і развіцця, а таксама да завяршэння абвешчанага ЮНЕСКА дзесяцігоддзя збліжэння культур.

Высокі прадстаўнік Генеральнага сакратара ААН па Альянсе цывілізацый Мігель Анхель Марацінас лічыць, што “прыйшоў час, каб сусветныя лідэры, парламентарыі, рэлігійныя дзеячы сабраліся разам і абмеркавалі існуючыя праблемы, прыўносячы ў сусветную палітыку разуменне, якое ёсць у прадстаўнікоў канфесій”.

### Пантыфік ухваліў дэкрэты Кангрэгацыі па справах кананізацыі

Святы Айцец прыняў кардынала Марчэла Сэмерара, прэфекта Кангрэгацыі па справах кананізацыі, і ўхваліў дэкрэты, якія тычацца беатыфікацыйных спраў 8-мі Слуг Божых.

Першым з дакументаў прызнаецца мучаніцтва італьянскага ксяндза Джавані Форназіні, які быў забіты з нянавісці да веры ў 1944 годзе.

Іншыя дэкрэты датычаць прызнання гераічнасці цнотаў. Гаворка ідзе пра 2-ух італьянскіх святароў: кс. Мікэле Арканджэла Марыі Антоніа Вінці і кс. Руджэра Марыі Капута, англійскую манахіню Элізабэт Проўт, заснавальніцу Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшага Крыжа і Мукі Нашага Пана Езуса Хрыста, італьянскага семінарыста Паскуале Канцы, а таксама 3-ох свецкіх вернікаў.

### Іспанская дыяцэзія прадае творы мастацтва і дапамагае бедным

Валенсійская архідыяцэзія стварыла спецыяльны фонд, мэтай якога будуць намаганні па ліквідацыі беднасці, узровень якой у Іспаніі значна вырас падчас пандэміі.

Арцыбіскуп Валенсійскі кардынал Антоніа Канісарэс абвясціў, што фонд “Pauperibus” правядзе аўкцыён твораў мастацтва, якія належаць мясцоваму Касцёлу. Сродкі ад продажу пакрыюць бедным іх самыя неадкладныя выдаткі.

### Малітоўныя інтэнцыі на люты

**паўсюдная**

Молімся за жанчын, якія з’яўляюцца ахвярамі насілля, каб грамадства аберагала іх, а іх пакуты былі заўважаны і выслуханы.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў усіх, хто лечыць і клапоціцца пра хворых, а таксама даў здароўе хворым.

# СТАРЭЙШЫ САЛЕЗІЯНІН БЕЛАРУСІ АДЗНАЧЫЎ ЮБІЛЕЙ



працяг са с. 1

grodnensis.by

Большую частку свайго святарскага жыцця кс. Здзіслаў прысвяціў служэнню Божаму народу як місіянер на Усходзе, дзе прымаў удзел у адраджэнні веры пасля 70-ці гадоў ваяўнічага атэізму і пераследу Касцёла. А вернікі смаргонскай парафіі, дзеці і моладзь ведаюць яго як святара з адкрытым сэрцам, які нясе Бога праз сваё сціплае служэнне ў пакоры і сумленнасці.

На св. Імшу падзякі з нагоды 85-ай гадавіны з дня нараджэння кс. Здзіслава сабралася шмат вернікаў Смаргоншчыны, якім ён прысвяціў ужо амаль 20 гадоў свайго жыцця, а таксама салезіяне з усёй Беларусі на чале з рэгіянальным настаяцелем кс. Віктарам Гайдукевічам SDB. Узначаліў літургію біскупскі вікарый для горада Магілёва і Магілёўскай вобласці біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB.

Пасля ўрачыстай св. Імшы ў адрас юбіляра прагучала шмат слоў віншаванняў і падзякі. Былі таксама зачытаны лісты з віншаваннямі ад біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча і ад інспектара Варшаўскай салезіянскай правінцыі кс. Тадэвуша Ярэцкага.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПАРТУГАЛІЯ.** Арганізатары СДМ-2023 у Лісабоне прадставілі афіцыйны гімн сустрэчы. Твор пад назвай “Há Pressa no Ar” (што можна даслоўна перакласці “У паветры – паспешнасць”) натхнёны тэмай моладзевага форуму: “Сабраўшыся, Марыя ў тыя дні паспяшыла ў горную краіну” (Лк 1, 39). “Спяваючы гэты гімн, моладзь з усяго свету запрошана атаясаміць сябе з Марыяй; сабрацца, каб служыць, каб прыняць місію і змяняць свет”, – тлумачаць арганізатары СДМ у паведамленні для прэсы. Аўтарамі твора з’яўляюцца кс. Жуан Паўлу Вас і музыкант Пэдру Фэрэйра, якія паходзяць з партугальскай дыяцэзіі Каімбры. Твор разам з тэледыскам даступны на канале Youtube партугальскай рэдакцыі СДМ.

**БУРУНДЗІ.** У краіне адзначаюць 50-годдзе місійнай паслугі кармэлітаў босых. Адным з элементаў юбілейнай падзякі з’яўляецца праект “50 дамоў для пігмеяў да 50-годдзя Кармэля”. Будаўніцтва будзе працягвацца ў бліжэйшыя гады, а разам з ім і катэхізацыя ў супрацоўніцтве з мясцовым духавенствам і свецкімі валанцёрамі. У праекце актыўна ўдзельнічаюць таксама кармэліты, якія праходзяць семінарыйную фармацыю. Гэтая праца таксама служыць развязанню шматвяковых забабонаў.

**ПОЛЬШЧА.** У санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Кракаве Лагеўніках з’явіліся бескантактныя драўляныя кропельніцы са святой вадой. Яны замацаваны на двух слупах ля ўваходу ў базіліку. Аднаго залівання вады ў ёмістасць хапае на некалькі тысяч ужыванняў. Дастаткова проста паднесці рукі пад месца, адкуль ідзе вада, і кроплі аўтаматычна пацякуць на далонь. У сувязі з пандэміяй на працягу апошняга года пры ўваходзе ў святыню знаходзілася дэзінфікуючая вадкасць, а святой вады, у якой можна было б намачыць руку, не было. Затое былі пакуначкі з вадой, якія можна было асвяціць у святара ў санктуарыі – такая магчымасць усё яшчэ існуе.

**ВАТЫКАН.** Пасольства Тайваня пры Апостальскай Сталіцы адрэагавала на папскі заклік да яшчэ большай чуллівасці да бяздомных і падрыхтавала 50 “Winter Blessing Bags” – пакетаў з рэчамі, якія абараняюць ад холаду (капялюш, уцяплялльнік на шыю, грэлка для рук з рукавіцамі, хірургічная маска, маска з мыйнага матэрыялу, збожжавыя батончыкі і дэзінфікуючы сродак для рук). “Шчаслівыя пакеты” былі раздадзены шматлікім бяздомным, якія жывуць і спяць на вуліцах побач з Ватыканам і ўздоўж каланады Берніні.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ДУХ ПАКАЯННЯ ЯК ШЛЯХ ДА БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ ПАВОДЛЕ БЛ. КС. МІХАЛА САПОЦЬКІ

*Апрацаваў кс. Аляксандр Сямінскі*

Блаславёны кс. Міхал Сапоцька вызначае пакаянне як схільнасць душы, якая змушае грэшніка ненавідзець здзейснены грэх, адчуваць да яго агіду і шкадаваць за ўчыненае, бо яно абражае Бога. Следствам гэтага з’яўляецца цвёрдая пастанова выпраўіцца і ўзнагароджанне за здзейсненае зло.

Паводле яго слоў, дух пакаяння вынікае з таго, што мы глядзім на грэх вачыма веры. Менавіта вера прыводзіць да разумення зла граху, усведамлення, наколькі ён парушае Божы закон, Яго святасць, справядлівасць і любоў, калі толькі смерць Бога-Чалавека магла яго загладзіць. Гэтае ўсведамленне вядзе да таго, што чалавек пачынае ненавідзець свае грахі і прагне лепш памерці, чым пакрыўдзіць Бога. Адсюль нараджаецца і жаданне кампенсаваць крыўды, “адпомсціць” праз пакаянне за правіны ўласныя і блізкіх, а таксама вымаліць прабачэнне ў велічы Бога. Так дух пакаяння схіляе чалавека да чынення пакаянных актаў.

На думку кс. Сапоцькі, шлях да Божай міласэрнасці вядзе толькі праз пакаянне. Ён піша: “Цнота пакаяння звязвае Божую міласэрнасць са справядлівасцю. Богу абавязкова трэба кампенсаваць крыўду, учыненую грэшнікам. Гэтая кампенсацыя адбываецца ў пакаянні”. Паводле слоў блаславёнага, нельга казаць пра беспакаранасць у выпадку міласэрнасці Пана, выражанай у прабачэнні грахоў, бо яны адкуплены каштоўнай крывёю Хрыста. У сувязі з такой цаной адкуплення, сумнявацца ў Божай міласэрнасці і прабачэнні – значыць дапусціць адну з найвялікшых зняваг, якімі можна абразіць Усемагутнага. Аднак Ён нагадвае нам, што атрымліваем гэтае міласэрнае прабачэнне пры ўмове, што “прыносім годны плён пакаяння” (параўн. Лк 3, 8).

Кс. Сапоцька падкрэслівае патрэбу жыць згодна з духам пакаяння. Яно павінна быць звязана не толькі з глыбокім разуменнем зла граху, але і часу міласэрнасці, які быў дадзены перад днём справядлівасці. Блаславёны заўважае: “Нельга тады падстрахоўвацца Божай міласэрнасцю ў грашэнні, бо яе час абмежаваны”. Тут ён засцерагае ад успрыняцця гэтай ласкі Пана як Яго слабасці і неадчувальнасці. Сапраўдная міласэрнасць праяўляецца ў захапленні цнотай літасці да беднасці, але і адыходам ад зла. Услед за аўтарам, натхнёным Святым Духам, кс. Міхал сцвярджае: “І не кажы: «Вялікая літасць Яго, Ён даруе мне мноства маіх грахоў». Бо ў Яго і міласэрнасць, і абурэнне, і на грэшнікаў сыдзе гнеў Ягоны” (Сір 5, 6–7). Аўтар лічыць, што Бог актыўна выяўляе сваю агіду і гнеў супраць граху. Яго гнеў на зямлі стрымліваe толькі міласэрнасць, якая чакае ад грэшніка жалю і пакаяння, але заўсёды кладзе лязо да кораня бясплоднага дрэва, якое будзе высечана.

Блаславёны падкрэслівае абмежаваны час, які адводзіцца на пакаянне. Таму таксама піша, што, “жадаючы скарыстаць Божую міласэрнасць, пакаянне нельга адкладаць, бо пазней можа не хапіць часу”, а таксама папярэджвае, што час міласэрнасці, дадзены для навяртання, кароткі, бо Бог не абяцае заўтра для пакаяння. Кс. Сапоцька, выкарыстоўваючы фрагмент Святога Пісання – “Той, хто хавае свае злачынствы, не будзе мець поспеху; а хто прызнаецца і адкідае іх, той будзе памілаваны” (Прып 28, 13), – паказвае, што дух пакаяння павінен прасякаць жыццё хрысціяніна, якое з’яўляецца шляхам рашучай адмовы ад граху і ўсяго, што да яго вядзе.



Калі чалавек сам сябе абвінавачвае, Бог не будзе яго абвінавачваць. Ён становіцца на баку чалавека, таму што той стаіць на Яго баку. Такім чынам, як сцвярджае блаславёны, міласэрнасць Пана патрабуе ад грэшніка духу пакаяння. Звычайна гэта звязана з некаторымі цяжкасцямі і непрыемнасцямі, але ёсць і станоўчыя бакі, якія прыносяць шчасце. Да іх належыць узнагарода ў выглядзе Божай ласкі, якая падтрымлівае чалавечыя намаганні, а таксама ўнутранае задавальненне тым, што дух перамог слабасць і чалавек вызваляецца ад найгоршага рабства – падпарадкавання ўласным жаданням. Больш за тое, праз дух пакаяння хрысціянін апярэджвае справядлівасць Усемагутнага, прымяняючы справядлівасць да самога сябе і прадухіляючы пагрозу часовых ды вечных пакаранняў, а таксама рыхтуе падатлівую глебу для бязмернай ласкі Божай міласэрнасці. У сваю чаргу невыкананне спраў пакаяння прыносіць яшчэ большае абцяжарванне беззаконнем і мацнейшую прывязанасць да грэшных залежнасцей.

Пакаянная практыка, паводле кс. Сапоцькі, патрэбна ўсім, хто не жыве ў поўнай нявіннасці. Кіравацца духам пакаяння нават тады, калі матывам з’яўляецца страх перад пеклам, як і калі ён заключаецца ў Божай любові, – добра, хаця ў апошнім выпадку больш дасканала. Блаславёны лічыць, што чым больш чалавек кіруецца Божай любоўю, тым больш адчувае патрэбу прынесці Усемагутнаму ў ахвяру сэрца, якое каецца.

Кс. Міхал прыводзіць дзве паставы людзей адносна неабходнасці духу пакаяння: адны адчуваюць незадаволенасць ужо толькі ад самога слова “пакаянне”, таму што ім здаецца, быццам яно супярэчыць шчасцю. Іншыя, наадварот, бачаць у гэтым мэту жыцця. Аўтар адмаўляе і адну, і другую паставу, сцвярджаючы, што пакаянне – толькі сродак атрымання міласэрнасці, але для грэшніка гэты сродак неабходны. Паслядоўнік Хрыста павінен пампраць для ўсяго, што з’яўляецца грахом, каб больш жыць Божым жыццём.

Апраўдваючы неабходнасць весці жыццё, згоднае з духам пакаяння, кс. Міхал піша, што Бог кіруе светам двума спосабамі: у лагоднасці і спакоі валадарыць над тымі, хто добраахвотна падпарадкоўваецца Яму, а ў строгасці і гневе – над тымі, хто Яму супрацьстаіць. Такім чынам, для адных гэта валадарства міласэрнасці, а для іншых – справядлівасці. Можна лёгка перайсці з другога ў першае, а шляхам да гэтага з’яўляецца пакаянне. Спасылаючыся на прарока Эзэхііля, кс. Сапоцька сцвярджае, што Бог не хоча смерці грэшніка, але каб ён навярнуўся і жыў (параўн. Эзх 33, 11), а таксама тлумачыць, што бязмежна міласэрны Пан не прагне пакараць, аднак можа ахінуць сваёй міласэрнасцю толькі тых, хто каецца.

# ХРЫСТОС, ПРЫГАЖОСЦЬ І ПРАВІЛЫ ЭТЫКЕТУ

працяг са с. 1

**Невялікая група жанчын на чале з с. Веранікай Блізнюк будзе прывіваць маленькім верніцам асноўныя якасці жаноцкасці і дапамагаць закласці ў іх падмурак хрысціянства.**

Ангеліна Марцішэўская


Каманда з мясцовых парафіянак па працы з дзяўчатамі

*– Пры смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла ўжо на працягу некалькіх гадоў дзейнічае моладзева-дзіцячы асяродак. С. Вераніка, падзяліцеся, калі ласка, чаму ўзнікла ініцыятыва стварыць у дадатак асобны клуб для дзяўчат?*

– Так, пры нашай парафіі, якой апекуюцца ксяндзы салезіяне, існуе араторый – месца вучобы, гульні, малітвы і працы для дзяцей і моладзі. Моладзь звычайна прыходзіць туды вечарамі, а ў нядзелю для яе праводзяцца адмысловыя мерапрыемствы, часта прымеркаваныя да розных свят. У межах араторыя дзейнічае "Савіо-клуб", дзе збіраюцца падлеткі: хлопцы і дзяўчаты па прыкладзе св. Дамініка Савіо вучацца, хто пачынае вяртацца да сваіх далёкіх каранёў: вучыцца сам і вучыць этыкету сваіх дзяцей. Ведаю, што ў розных краінах спрабуюць адраджаць школы для дзяўчынак, каб выхоўваць іх на годных маладых дзяўчат, вучыць ветлівасці, міласэрнасці, цярпімасці, чыстасці... Гэта стала апошнім штуршком да прыняцця рашэння аб заснаванні клуба для дзяўчынак. І, шчыра кажучы, мы былі здзіўлены, што адгукнулася так шмат жадаючых: да нас запісалася ажно 30 чалавек!

Аднак, зразумела, галоўнай мэтай клуба застаецца дэвіз усяго араторыя: навучыць маленькіх вернікаў жыць хрысціянскімі каштоўнасцямі ў сучасным свеце.

**Успамін св. Яна Боско, заснавальніка салезіянскіх кангрэгацый, прыпадае на 31 студзеня.**

як быць святымі ў звычайным асяроддзі. Таксама праводзяцца заняткі дзіцячага хору, які аздабляе св. Імшу для маленькіх вернікаў, і, канешне, групы міністрантаў.

Разам з тым, ідэя зрабіць штосьці асобна для дзяўчат узнікла ўжо даўно. Гледзячы на тое, як мала часу сёння надаецца іх культурнаму і маральнаму развіццю, нам захацелася паспрабаваць адрадзіць хрысціянскія каштоўнасці і традыцыі сярод дзяўчынак. Дапамагчы ім цалкам раскрыць сваю жаноцкасць, распавесці пра важную ролю маці ў сям'і, падказаць, як годна паводзіць сябе ў любой сітуацыі.

На жаль, мінуў час, калі ўсе, нягледзячы на сацыяльны статус, імкнуліся захоўваць этыкет. У XXI стагоддзі – эпоху інтэрнэту, хуткіх камунікацый і вялікага аб'ёму інфармацыі – навакольны свет кардынальна змяніўся. Людзі імкнуцца ўсё спрасціць, і як вынік – абыходзяць правілы этыкету. Аднак можна заўважыць, што ёсць і тыя,

*– Удзельніцы клуба маюць узроставае абмежаванне – гэта дзяўчынкі 3–5 класаў. Якую аснову пад сабой мела абранне менавіта такой узроставай катэгорыі?*

– Усё вельмі проста! Калі мы планавалі дзейнасць клуба, першапачаткова хацелі падзяліць дзяўчынак паводле ўзросту, пачынаючы з 4 класа і да заканчэння школы. На жаль, ідэя не знайшла водгуку сярод старэйшых дзяўчат, а малодшыя выказалі яшчэ большае жаданне паўдзельнічаць. Таму ўзрост удзельніц клуба складае ад 8-мі да 12-ці гадоў. Нам здаецца, што менавіта ў гэты перыяд дзяўчаты найбольш зацікаўленыя і падатлівыя на новыя веды. Таксама гэта ўзрост, калі дзеці ўжо могуць зрабіць штосьці самастойна, а пасля падзяліцца досведам са сваімі бацькамі.

*– Спіс задач клуба даволі разнастайны: ад фарміравання пачуцця справядлівасці да прывіцця навыкаў догляду за знешнасцю. Гэта патрабуе немалога чалавечага рэсурсу. Як плануеце ажыццяўляць такую рознабаковую дзейнасць?*

– На сённяшні дзень выхаваўчы калектыў складаецца з 8-мі жанчын. Разам са мной служаць аніматары, якія маюць вопыт працы з дзецьмі ў араторыі, ёсць настаўнікі і псіхолаг, а таксама матулі, якім не абыякава выхаванне дзяцей і якія ў розных сітуацыях і патрэбах імкнуцца нас падтрымаць. Зразумела, кожны мае свае асаблівыя здольнасці і таленты. Таксама плануем запрашаць на сустрэчы кваліфікаваных спецыялістаў у розных галінах, якія нам будуць дапамагаць. Разам з тым, хачу адзначыць, што мы не намераны зрабіць з клуба штосьці надзвычайнае. Галоўнае – падзяліцца вопытам, як быць сумленнай хрысціянкай.

*– Напрошваецца пытанне: якая яна – сучасная хрысціянка?*

– Гэта адважная, шчырая, добразычлівая дзяўчына, якая ведае, як сябе паводзіць у грамадстве, як жыць па-хрысціянску, нягледзячы на тое, што прапануе інтэрнэт і спакусы навокал, і якая можа мужна абараніць свае хрысціянскія каштоўнасці.

Лічу, што сёння ў нашым жыцці надта шмат "унісексу". Дзяўчаты імкнуцца быць роўнымі ва ўсім з хлопцамі, часам нават быць падобнымі да іх. Пры гэтым яны губляюць сябе. Дзяўчына-хрысціянка павінна развіваць у сабе жаночую душу па прыкладзе шматлікіх жанчын з Біблії і перадаваць гэты прыклад іншым.

*– Калі казаць пра супольнасць дзяўчат і жанчын Касцёла ў Беларусі, з якімі праблемамі развіцця і раскрыцця хрысціянскага патэнцыялу яна, на Вашу думку, сутыкаецца?*

– Мне здаецца, што для раскрыцця хрысціянскага патэнцыялу дзяўчат трэба больш добрых прыкладаў жанчын – хрысціянак сучаснага свету, якія б захаплялі крочыць іх слядамі. І праблема якраз можа быць у тым, што ў хрысціянскіх супольнасцях не хапае добра падрыхтаваных жанчын, здольных у гэтым дапамагчы.

У сучасным свеце прапануецца шмат прыкладаў, якія зусім не грунтуюцца на маралі ці хрысціянскіх каштоўнасцях. Дзяўчынка павінна расці, гледзячы на прыклад маці, сяброўкі, настаўніцы, якая паводзіць сябе інакш, чым прапануе свет. Дарастаючы, яна мусіць ведаць, што ёсць іншыя дзяўчаты, якія, як і яна, імкнуцца жыць пэўнымі каштоўнасцямі. Жанчынам патрэбна месца да каго звярнуцца, каб не адчуваць сябе самотнымі, жывучы маральнымі прынцыпамі.

Аднак, у першую чаргу, каб справіцца з выклікамі, якія можа падкідваць сучасны свет, кожная дзяўчына павінна раскрыць сваё пакліканне – кім яна з'яўляецца і кім павінна быць у грамадстве, не забываючыся таксама пра хрысціянскае – чаго ад яе хоча Бог.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# СОЛЬ І ЛЕЧЫЦЬ, І КАЛЕЧЫЦЬ


Алена Майсюк




**Слізка зімой – трэба пасыпаць дарожкі соллю, нясмачна – падсаліць страву, трава паміж пліткай прабіваецца – можна знішчыць, раскідаўшы соль, паляванне на лася – трэба расставіць у лесе саланцы… І гэта толькі некаторыя з мноства спосабаў прымянення аднаго рэчыва – хларыду натрыю. Разбярэмся, як для прыроды і чалавека апраўдана выкарыстоўваць соль, а якія спосабы згубныя і з'яўляюцца міфам.**

### ШКОДА АД ЗНЕШНЯГА ВЫКАРЫСТАННЯ СОЛІ

Зімой, ідучы па дарозе, вы, напэўна, заўважалі "дзірачкі" ў снежным покрыве – гэта раскідана соль. Такі спосаб барацьбы з галалёдзіцай зусім не эфектыўны, таму што дзейнічае кропкава – у радыусе 0,5 сантыметра ад упаўшага крышталіка. У адлігу соль раствараецца і шкодзіць караням дрэў, асабліва калі пры ставле складзіруецца снег з пасыпаных дарожак. У далейшым гэта прыводзіць да аварыйнасці дрэў у межах горада і ўздоўж дарог. Акрамя таго, соль раз'ядае металічныя канструкцыі і скураны абутак.

Найбольш эфектыўна ў нашых кліматычных рэаліях з галалёдзіцай спраўляецца своечасовая ачыстка дарог і тратуараў ды пасыпанне іх звычайным пяском. Ён не шкодзіць навакольнаму асяроддзю.

Часам работнікі камунальных службаў наносяць такую ж шкоду прыродзе і летам, сыплючы паваранную соль паміж пліткай у надзеі, што доўга не прыйдзецца яе чысціць ад дзікарослых раслін. Аднак знішчаючы травяное покрыва соллю, яны тым самым агаляюць зямлю. Любы ветрык заносіць пыл у шчыліны паміж пліткай і ўсюдыісныя травы зноў пасяляюцца на тратуарах. А соль, між тым, трапляе ў грунтавыя воды, прымушаючы пакутаваць ад гэтага ўсё жывое.

### ШКОДА АД УНУТРАННАГА ЎЖЫВАННЯ СОЛІ

Многія дадаюць соль у ежу, хоць яна ў дастатку ўтрымліваецца ў гароднiне і зяляніне. Разам з тым, шмат шкодных рэчываў змяшчае і сама соль. Зараз у любую прыправу шчодра дадаецца кампанент супраць злежвання – цыянід, які таксічны для арганізма. Сучасная соль таксама адбельваецца, падвяргаючыся жорсткай хімічнай апрацоўцы, і мікраэлементы ў ёй знішчаюцца. А міф аб ёдаванай солі нам прышчапілі з рэкламы. Арганізм ад солі не атрымлівае карысці, затое яна здольна затрымліваць у ім вадкасць у зусім не прыдатных для гэтага месцах, што пракавае дадатковую нагрузку на здароўе.

Тое ж датычыць і жывёл. Засцеражыце іх ад солі: і хатніх, і дзікіх. Птушкі не выключэнне – ім таксама небяспечна даваць салёныя арэшкі, сала, сухарыкі.

### КАРЫСЦЬ СОЛІ

Натуральныя саляныя пячоры і марское паветра з'яўляюцца прыроднымі антысептыкамі, станоўча ўплываюць на органы дыхання і кроў, а таксама ў цэлым падтрымліваюць імунітэт. У розных лячэбніцах спрабуюць штучна ўзнавіць салёнае паветра, распыляючы паваранную соль. Гэта малаэфектыўна. Соль павінна быць дробнадысперснай, каб дайсці да глыбінных альвеол у лёгкіх, і, вядома, быць без хімічнай апрацоўкі, здабывацца толькі ў правераных месцах. Штучна здрабніць соль магчыма, але толькі адмысловым прыборам. Калі вы хочаце аздаравіцца такой соллю, першапачаткова даведайцеся ўсё ў прадаўца дадзеных тавараў ці паслуг.

Дзесяціпрацэнтны раствор солі здольны выцягнуць з арганізма таксічныя рэчывы. Прынцып той жа, што і выцягванне стрэмкі з пальца – яго можна патрымаць у шклянцы з падсоленай вадой. Тут таксама трэба правільна разлічыць утрыманне солі, каб быў лячэбны эфект. Ідэальнае ўтрыманне солі – у марской вадзе, таму лепшы варыянт аздараўлення – плаваць і дыхаць марскім паветрам.

Разумнасць у выкарыстанні солі дапаможа пазбегнуць дэградацыі глеб і пагаршэння здароўя жывых арганізмаў, а таксама захаваць навакольнае асяроддзе. Падыходзьма свядома да гэтага пытання.

2 лютага 1971 года была падпісана Рамсарская канвенцыя для захавання месцаў пасялення вадаплаўных птушак. Штогод гэтая дата адзначаецца як Сусветны дзень водна-балотных угоддзяў. Балоты яшчэ важныя планеце як сховішчы прэснай вады і як ачышчальнікі паветра. І зусім не эфектыўныя як месцы торфараспрацовак. Навукоўцы Беларусі правядзілі эколага-эканамічную ацэнку экасістэмных паслуг балот і прыйшлі да высновы, што іх захаванне павялічвае здабытак дзяржаў, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца. Балота – гэта жывы арганізм, які фарміруецца сотнямі тысяч гадоў.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ Ў ДЗІЦЯЦІ ПРАБЛЕМЫ З АПЕТЫТАМ?



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

Адзін з самых вялікіх клопатаў бацькоў у наш час – тое, што дзіця не хоча есці. Чаго толькі яны не выдумляюць: адны падчас кармлення ўключаюць малому які-небудзь мультфільм або даюць у рукі тэлефон, каб адцягнуць увагу ад ежы, іншыя робяць са стравы ледзь не мастацкія творы, каб толькі дзіцяці спадабалася. Пастаянная барацьба за лыжку супу можа ператварыць жыццё дзіцяці і бацькоў у сапраўдны кашмар.

Безумоўна, вельмі важна, каб дзіця харчавалася правільна, і ўсе бацькі імкнуцца пра гэта паклапаціцца. Аднак замест таго, каб з'есці смачную страву, малое можа гадзінамі сядзець над талеркай ці проста адразу кажа, што нечага не любіць або не будзе есці. Расчараванне бацькоў часам не знае межаў, тым больш, калі пачуюць ад урача, што дзіця мае вельмі малую вагу.

Перш за ўсё, бацькі павінны памятаць, што ўсе дзеці маюць індывідуальныя харчовыя патрэбы і ім неабходны пасілкі рознай велічыні. Некаторыя з самага нараджэння ядуць менш, чым іх аднагодкі, і ў гэтым няма нічога дрэннага, калі дзіця добра развіваецца. Як сцвярджаюць медыкі, у іх проста хуткі метабалізм і ніжэйшая патрэба ў калорыях. Таксама варта памятаць, што ні адно здаровае дзіця ніколі не памрэ з голаду. Кожны з нас мае інстынкт самазахавання, і дзеці таксама.

Часам праблемы бываюць менавіта з бацькамі, бо іх уяўленне пра тое, колькі павінна есці дзіця, не заўсёды адпавядае таму, колькі ежы патрабуе падрастаючы арганізм. Не трэба ствараць атмасферу напружання і прымусу адносна ежы, бо дзіця ўсё гэта адчувае. На любы ціск яно часцей за ўсё рэагуе супраціўленнем.

Варта падумаць, чаму ў дзіцяці мог знікнуць апетыт. Магчыма, у яго пачынаецца хвароба ці яно нечым заклапочана. Такія праблемы звычайна носяць часовы характар і павінны знікнуць. Аднак вельмі часта прычынай таго, што дзіця мала есць, з'яўляецца псіхалагічная праблема.

***Некалькі парад для бацькоў, якія дапамогуць наладзіць харчаванне:***

1. Не ствараўце падчас пасілку атмасферу нервовасці.
2. Памятаеце, што часовыя ваганні апетыту – нармальная з'ява для дзіцяці.
3. Не прымушайце малое есці больш, чым яно можа ці хоча. Проста скажыце, што калі прагаладаецца, хай з'есць штосьці яшчэ.
4. Дзіця можа не любіць пэўныя стравы. Лепш даць яму тое, што падабаецца (зразумела, у межах разумнага).
5. Пасілак павінен мець выразны пачатак і канец. Да таго ж, у дзіцяці таксама павінна быць сваё месца за сталом.
6. Не варта надаваць празмерную ўвагу харчаванню, напрыклад, пастаянна хваліць дзіця, што яно добра паела, альбо злаваць, што нічога не з'ела. Таксама не трэба каментаваць яго апетыт.
7. Варта з самага пачатку паклапаціцца пра культуру харчавання: есці за сталом, разам з сям'ёй, без тэлефона ў руках і без уключанага тэлевізара.

Памятайма, што калі дзіця здаровае, шчаслівае і жывое, няма прычын для хвалявання. Яго апетыт адпавядае патрэбам арганізма. І нельга забываць, што перакарміць дзіця – большая праблема.

# ПАЗІРАЮЧЫ НАЗАД, ІДУЧЫ НАПЕРАД

працяг са с. 1

**Мінула ўжо сем гадоў з таго часу, як рэктар і выкладчык Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі прыняў біскупскае пасвячэнне. З гэтай нагоды дапаможны біскуп і генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзгадвае сем важных падзей з гэтага перыяду.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**1. Візіт ad limina Apostolorum.**

*З 31 студзеня па 7 лютага 2018 года ў Ватыкане праходзіў чацвёрты ў гісторыі Касцёла ў Беларусі візіт біскупаў ad limina Apostolorum.*

"Я ўпершыню ў жыцці ўдзельнічаў у падобным мерапрыемстве. Разам з іншымі біскупамі нашай краіны мы накіраваліся да Наступніка св. Пятра, каб выказаць жывую супольнасць з Апостальскай Сталіцай і калегіяльную адказнасць за Паўсюдны Касцёл. Візіт «ad limina» заўсёды з'яўляецца своеасаблівым урокам эклезіялогіі, глыбокім досведам Таямніцы Касцёла. Гэта таксама знак той лучнасці, якая заключаецца ва ўзаемапранікненні Паўсюднага і мясцовых Касцёлаў. Гэта ўнікальная магчымасць падзяліцца досведам і багажом нашага Касцёла, як і зачарпнуць духоўнае багацце, знаходзячыся ля магіл апосталаў".

**2. Сустрэчы з моладдзю.**

*Удзел у Сусветных днях моладзі ў Кракаве (2016 г.) і Панаме (2019 г.).*

"Я цаню сустрэчы з маладзёнамі, таму што, як паўтараў ініцыятар Сусветных дзён моладзі і верны іх сябар св. Ян Павел ІІ, «з кім павядзешся, ад таго і набярэшся». Трэба знаходзіцца побач з маладымі людзьмі. Аб гэтым клапаціўся святы Папа, які быў выкладчыкам ва ўніверсітэце, праводзіў канікулы з моладдзю, ведаў яе праблемы. Ён разумеў маладога чалавека. Таму трэба быць з моладдзю. Выслухваць. Бачыць яе боль, тугу, жаданні. Папа Францішак у апостальскай адгартацыі «Christus vivit» («Хрыстос жывы») выказаў меркаванне, што Касцёл павінен праяўляць салідарнасць з цярпеннямі маладых людзей і суправаджаць іх у цяжкім лёсе. Моладзь – гэта будучыня нацыі. Якім будзе яе выхаванне, такой будзе будучыня дадзенай краіны, Еўропы, свету і Касцёла".

**3. Сярэбраны юбілей Гродзенскай дыяцэзіі.**

*24–26 мая 2016 года ў Гродне адбылося святкаванне 25-годдзя ўзнікнення дыяцэзіі, спалучанае з Нацыянальным эўхарыстычным кангрэсам.*

"З гонарам магу сказаць, што я адзін з тых людзей, якія сталі сведкамі ўтварэння нашай дыяцэзіі. Я стаяў ля вытокаў узнікнення структур мясцовага Касцёла, спачатку як семінарыст, потым як святар. Святкуючы першы такі юбілей дыяцэзіі і яе біскупа, мы выказалі ўдзячнасць Богу за ўсіх, хто ўнёс свой уклад у стварэнне новай гісторыі і з кім ішлі супольнай дарогай. Гэта была таксама нагода, каб зазірнуць у будучыню, каб з яшчэ большай стараннасцю абвяшчаць Евангелле. Устанаўліваючы ў 1991 годзе новую дыяцэзію, Святы Айцец Ян Павел ІІ меў вялікае жаданне дапамагчы нам далей развіваць жыццё Касцёла, якім мы з'яўляемся, а праз гэта – паглыбляць сваю звышнатуральную сувязь з уваскрослым Хрыстом, які праз Святога Духа робіць нас адной сям'ёй Божых дзяцей".

**4. Досвед убоства.**

*На заканчэнне Надзвычайнага юбілейнага года міласэрнасці ў 2016 годзе Святы Айцец Францішак устанавіў у Каталіцкім Касцёле Сусветны дзень убогіх.*

"Мне давялося шмат разоў сустракацца з людзьмі беднымі і тымі, якія не маюць сталага месца жыхарства. Разам з працаўнікамі дабрачыннай арганізацыі «Карытас» мы неадназова наведвалі начныя прытулкі. Я меў нагоду раздзяліць калядны пасілак з беднымі ў сталовай, якую вядуць сёстры назарэтанкі ў Гродне. Як падкрэсліваў папа Францішак у сваім апошнім пасланні на IV Сусветны дзень убогіх, мы не можам быць «у парадку», калі член нашай чалавечай сям'і адсунуты на задворкі і становіцца ценем. Крык маўчання многіх бедных павінен дайсці да Божага люду, які заўсёды і ўсюды гатовы даць ім голас, выказаць салідарнасць з імі і запрасіць да ўдзелу ў жыцці супольнасці. Пры гэтым, паводле слоў св. Грыгорыя Вялікага, важна памятаць, што калі мы даём патрабуючым самае неабходнае, мы даём тое, што належыць ім, а не нам".




Біскуп Юзаф у гродзенскай катэдры дзякуе Богу за 25 гадоў святарства

**5. Сярэбраны юбілей святарства і залаты – жыцця.**

*У 2020 годзе іерарх адзначаў 25-годдзе прыняцця святарскіх пасвячэнняў і 50-ую гадавіну з дня нараджэння.*

"Кожны юбілей – гэта нагода быць удзячным Богу за сілу і ласку трываць, а таксама людзям, якіх Ён паставіў на маім шляху, і за ўчыненае дабро. Пакліканне – гэта дар Божай ласкі, і ні ў якім разе не права чалавека. Святарства нельга разумець як простае чалавечае адрозненне, але кожны з пакліканых павінен з самага пачатку напоўніць сваё сэрца захапленнем і ўзрушанасцю, удзячнасцю і даверам, а таксама надзеяй. Таму, адзначаючы ўласныя юбілеі, я не хацеў звяртаць увагу на сябе, але прагнуў вылучыць тых людзей, якім абавязаны сваім жыццём, верай і пакліканнем, а таксама звярнуць увагу на ўсе падзеі, якія са мной адбыліся".

**6. Сустрэчы з сем'ямі.**

*У ліпені 2019 года адзначалася 25-годдзе ўстанаўлення дыяцэзіяльнага санктуарыя ў Тракелях.*

"Я да гэтага часу выдатна памятаю тысячы прыгожых і шчаслівых сем'яў, якія прыбылі ў санктуарый Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях, каб падзякаваць Богу за дар Марыі як нашай Маці. Кожны раз, сустракаючыся з сужэнцамі, хачу заахвоціць іх супрацьстаяць гэтым вялікім выклікам сучаснага свету, не губляць мужнасці і памятаць, што яны не адны: Хрыстос верыць у іх; Касцёл ідзе разам з імі; людзі добрай волі глядзяць на іх з даверам! Як сказаў св. Ян Павел ІІ у апостальскай адгартацыі «Familiaris Consortio», кожная сям'я паклікана ствараць будучыню чалавецтва, фарміраваць аблічча зямлі. У гэтай няпростай справе няхай усіх сужэнцаў падтрымлівае і накіроўвае Панна Марыя Каралева Нашых Сем'яў, якая разам са сваім мужам Юзафам перажыла ў доме ў Назарэце радасныя і цяжкія хвіліны сямейнага жыцця".

**7. Удзячнасць апостальству "Маргарытка".**

*Сутнасцю апостальства з'яўляецца штодзённая малітва за канкрэтных святароў.*

"Я нястомна дзякую Богу за ўсіх членаў Апостальства малітвы за святароў «Маргарытка». Магу з упэўненасцю сказаць, што гэтая вялікая армія вернікаў на самой справе робіць тое, да чаго заклікаў нас св. Ян Павел ІІ, кажучы, што «мы ўсе нясём адказнасць за святарскія пакліканні». Яны прынялі гэтыя словы глыбока ў сэрца і пачалі маліцца! Падчас сустрэч з членамі апостальства я заўважаю, наколькі ім важна, каб нашы святары былі вернымі, разважлівымі, святымі, каб вялі Касцёл бяспечным шляхам у Абяцаную зямлю – у Неба. Дзякуючы іх малітвам, посту і ахвярам нашы святары могуць прысвяціць сябе служэнню іншым, рэалізаваць разнастайныя душпастырскія ініцыятывы, узводзіць святыні".

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як пазбавіцца ад самабічавання?

*grodnensis.by*

*Самабічаванне, незадаволенасць тым, што робіш для Бога і бліжніх, параўнанне сябе з іншымі і пастаяннае самапрыніжэнне – гэта яскравыя рысы скрупулёзнага чалавека, часта звязаныя з неапрацаваным эгаізмам і, магчыма, нарцысізмам.*

*У жыцці скрупулёзных асоб дамінуюць страх і няўпэўненасць: нібы яны горшыя за іншых і няздатныя да чагосьці. Такія ж адчуванні ўзнікаюць і наконт адносін з Богам у духоўным жыцці. Яны не здольны ацэньваць сваё паводзіны на практыцы, і хоць могуць дакладна прааналізаваць тэарэтычныя сітуацыі, падобныя да ўласнай, даць добрыя парады іншым, застаюцца бездапаможнымі адносна сябе.*

*Каб зразумець прыроду скрупулёзаў, трэба звярнуцца да лацінскага кораня тэрміна гэтай праблематычнай з'явы. "Scrupulus" – літаральна "каменьчык" – першапачаткова азначаў надзвычай дробную вагу, якая нахіляла шалі толькі самых адчувальных вагаў. Такім чынам, выкарыстанне гэтага слова ў маральным сэнсе азначала залішнюю педантычнасць пры абмеркаванні пытанняў, звязаных з функцыянаваннем сумлення.*

*На падставе ўласнага досведу св. Ігнацый Лаёла прапануе такім асобам у якасці сродку для барацьбы "развааванне пра міласэрнасць". Гэтая медытацыя базуецца на тым, што чалавек не ў стане выплаціць велізарную запазычанасць перад Панам, велічыню якой ён нават не можа ацаніць. Гэта становіцца немагчымым, бо чалавек не прымае, што Той, каму ён вінны, даруе, забывае і дае яму незразумелую і свабодную любоў. Гэта вопыт, які здымае хваравітае пачуццё запазычанасці, нараджаючы мір і ўдзячнасць Богу.*

*Такім чынам, св. Ігнацый раіць выйсці з безнадзейнасці, увайсці ў вопыт вылячэння і ўбачыць сваю будучыню, а не засяроджвацца на разбуральным мінулым, ранах і недахопах. Такая сітуацыя больш не руйнуе псіхіку дзякуючы прымірэнню з самім сабой. Прымірэнне, крыніцай якога з'яўляецца Божая міласэрнасць, дае сапраўдны супакой душы.*

*Кожны з нас – вобраз Божы, унікальны і непаўторны. Гэта значыць, няма горшых у Божых вачах: ёсць іншыя, але не горшыя. Нам трэба больш канцэнтравацца не на сваіх ранах, але на ранах Езуса Хрыста, бо ў іх, як кажа прарок Ісая, "аздараўленне нашае".*

# Я – БЕЗЗАГАННАЕ ЗАЧАЦЦЕ

Людвіга Цыдзік

### АБ'ЯЎЛЕННЕ Ў ЛУРДЗЕ

11 лютага 1858 года, за тыдзень да Папяльцовай серады, 14-гадовай беднай і непісьменнай сялянскай дзяўчынцы Бернадэце Субіру аб'явілася Прыгожая Пані ў гроце Масаб'ель на ўскраіне Лурда ў Францыі. У невялікім паглыбленні пячоры на вышыні трох метраў ад зямлі выплыла залацістае воблака, і з'явілася святло, з якога паўстала постаць маладой жанчыны. Бернадэта апісала Яе наступным чынам: "Мела белую сукенку, перавязаную сіняй стужкай, белы вэлюм на галаве і залацістую ружу на кожнай ступні. На руцэ Яна трымала ружанец. Была вельмі прыгожай, найпрыгажэйшай з усіх жанчын, якіх я сустракала да гэтага часу. Яна была вельмі маладая. Не старэйшая за мяне".

Гэта было першае з 18-ці аб'яўленняў, якія адбыліся ў перыяд з 11 лютага па 16 ліпеня 1858 года і паўсюдна вядомы як аб'яўленні ў Лурдзе. Менавіта тут выразна выявілася праўда слоў Хрыста аб тым, што рэчы, якія вызначаюць гісторыю чалавецтва і вечнае шчасце кожнай асобы, закрыты ад мудрых і разумных, але адкрыты дзецям (параўн. Мц 11, 25). Гэтае аб'яўленне Маці Божай перад Вялікім постам было, верагодна, невыпадковым. Прыгожая Пані прыйшла нагадаць грэшнаму свету пра неабходнасць навяртання, малітвы і пакаяння ў час вялікай маркоты.

### ТРАГІЧНЫ ЛЁС ФРАНЦЫІ

Варта згадаць, што папярэдне Каралева нябёсаў аб'явілася 19 ліпеня 1830 года Кацярыне Лабурэ ў Парыжы і паведаміла сумную праўду пра трагічны лёс, які чакаў Францыю і іншыя краіны на працягу наступных 40-ка гадоў. "Часы вельмі дрэнныя. У гэтыя страшныя дні на ўвесь свет абрынуцца бедствы ўсіх відаў. [...] Увесь свет будзе поўны смутку і жалобы". У суцяшэнне Маці Божая падарыла тады чалавецтву вялікі дар – цудатворны медальён са зваротам: "О Марыя, без граху першароднага зачатая, маліся за нас, хто ў Цябе паратунку шукае", і з абяцаннем: "Усе, хто будзе яго насіць, атрымаюць вялікія ласкі". Праз гады гэты медальён стаў інструментам навяртання і аздараўлення многіх людзей.



wikipedia.org

Смерць, якая прыносіць халеру, часопіс "Le Petit Journal"

Прароцтва Марыі спраўдзілася праз тыдзень. 25 ліпеня 1830 года ў Францыі выбухнула грамадзянская вайна, якая распачала шэраг неспакойных падзей: Ліёнскае паўстанне (1831–1834), Лютаўская рэвалюцыя (1848), сельскагаспадарчы крызіс, сацыяльныя і палітычныя праблемы, эканамічны спад і павелічэнне ўнутранага напружання. У дадатак да бурных настрояў у краіне, у 1831–1838 гадах усю Еўропу ахапіла небяспечная эпідэмія халеры, якая забрала сотні тысяч жыццяў. Чарговыя атакі хваробы былі зафіксаваны ў 1848–1855 гадах. Заражэнні адбываліся ў стрававальным тракце праз заражаную ваду і ежу.

У 1855 годзе эпідэмія халеры дабралася да Лурда. Тады заразілася і Бернадэта – захварэла на астму, а потым на туберкулёз костак ног. Хвароба зруйнавала яе далікатны арганізм. І вось гэтая бедная, хворая дзяўчынка атрымала вялікі гонар ад Каралевы нябёсаў, якая абрала яе сваёй пасланніцай.

### ПАСЛАННЕ МАРЫІ

Галоўным пасланнем Марыі быў заклік да штодзённай і старраннай ружанцовай малітвы, пакаяння і ўзнагароджання за грахі. Яна казала: "Кайцеся і маліцеся Богу аб навяртанні грэшнікаў". Гэтыя заклікі паўтараліся неаднаразова. Каб аблегчыць пакуты церпячым ды аздаравіць цела і душу, Маці Божая сама наказала Бернадэце выкапаць крыніцу ў акрэсленым месцы і прадвясціла цуды, звязаныя з ужываннем гэтай вады. Цудадзейная крыніца ніколі не перасыхала і стала прычынай многіх аздараўленняў.

Падчас 16-га аб'яўлення, 25 сакавіка 1858 года, у свята Звеставання Пана, Маці Божая перадала Бернадэце праўду пра сваё беззаганнае зачацце. Калі па просьбе пробашча кс. Дамініка Пейрамале Бернадэта папрасіла таямнічую Пані даць выразны знак таго, хто Яна на самой справе, атрымала адказ: "Я – Беззаганнае Зачацце!", тым самым даючы сведчанне боскай прыроды звышнатуральных з'яў. У той жа час гэта пацвердзіла догму веры аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі, абвешчаную папам Піем IX 8 снежня 1854 года.

У 1864 годзе кс. пробашч Пейрамале пачаў будаваць святыню на месцы аб'яўленняў у Лурдзе. Праз 11 гадоў яна была ўрачыста асвечана арцыбіскупам Парыжа Гвіберам як санктуарый Маці Божай Аздараўлення Хворых.


sanctus.pl

Аб'яўленне Маці Божай у Лурдзе

### АБАРОНА Ў ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ

Па дзіўным супадзенні, здаецца, што гісторыя Францыі і свету з XIX стагоддзя падрабязна паўтараецца на нашых вачах. Праз больш за 160 гадоў пасля аб'яўленняў у Лурдзе ўвесь свет зноў упаў у роспач. Пандэмія каранавіруса атакуе ўсё з новай і новай сілай, смерць збірае свой багаты ўраджай, многія краіны перажываюць сацыяльныя, палітычныя і эканамічныя праблемы. Відавочна, чалавецтва не ў стане ўласнымі сіламі справіцца з такімі выклікамі.

Набліжаючыся да Вялікага посту, тым больш неабходна ўзгадаць рэцэпт Маці Божай Лурдскай і Яе эфектыўную абарону ад небяспекі. Пазачасавая, яна застаецца актуальнай і нязменнай: навяртанне, ружанцовая малітва за грэшнікаў, пакаянне, узнагароджанне за грахі чалавецтва і даручэнне сябе Беззаганнай.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***7 лютага – V Звычайная нядзеля***
***Мк 1, 29–39***

Езус, выйшаўшы з сінагогі, прыйшоў з Якубам і Янам у дом Сымона і Андрэя. Цешча ж Сымона ляжала ў гарачцы, і адразу сказалі Езусу пра яе. Ён падышоў і, узяўшы за руку, падняў яе. І прайшла ў яе гарачка; і жанчына пачала служыць ім. Калі ж настаў вечар і калі зайшло сонца, прынеслі да Яго ўсіх нядужых і апантаных злымі духамі. А ўвесь горад сабраўся перад дзвярыма. Ён жа аздаравіў многіх, якія цярпелі на розныя хваробы, і выгнаў многіх злых духаў; і не дазваляў злым духам казаць, што яны ведалі Яго. А раніцай, устаўшы вельмі рана, выйшаў і пайшоў у пустыннае месца, і там маліўся. Сымон і тыя, хто быў разам з ім, пайшлі за Ім. І, калі знайшлі Яго, сказалі Яму: "Усе шукаюць Цябе". Ён адказаў ім: "Пойдзем куды-небудзь у бліжэйшыя мястэчкі, каб і там прапаведаваць, бо Я дзеля гэтага прыйшоў". І прапаведаваў Ён у сінагогах іхніх па ўсёй Галілеі, і выганяў злых духаў.

### Бог заўсёды стаіць на баку чалавека

*Наша паўсядзённае жыццё напоўнена рознымі сямейнымі і прафесійнымі абавязкамі. У кожнага чалавека столькі спраў, столькі праблем, перад якімі ён бездапаможны, бяссільны. Не дзіўна, што ўслед за Ёвам пытаемся: "Ці не вызначаны чалавеку час на зямлі, і дні ягоныя ці ж не тое самае, што дні найміта?" (Ёв 7, 1).*

*Здараецца таксама, што ўласныя драмы выклікаюць у нас пытанні: Ці ёсць Бог? Ці мае Ён дачыненне да таго, што са мной адбываецца? Ці клапоціцца пра мяне? Евангелле адказвае на іх станоўча. Паказвае сярод беднасці, хвароб і апантанасці людзей Езуса, які не абыякавы. Бог у Хрысце ўсхваляваны людскім лёсам і нясе нас з нашымі крыжамі. Становіцца на баку чалавека, каб умацоўваць, суцяшаць, абуджаць надзею і веру ў лепшую будучыню і спакайнейшае заўтра. Гэта праўда, што Ён не пазбаўляе нас цяжкасцей жыцця, але дазваляе знайсці яго смак нават тады, калі не адпавядае нашым чаканням. Дае сілу прыняць крыж. Знаходзіцца побач у штодзённай барацьбе, дазваляючы нам перамагчы пачуццё бессэнсоўнасці і сумненні.*

*Можа толькі здавацца, што Бог забыўся пра нас. Гэта няпраўда, што мы абыякавыя Яму, што Ён хаваецца ад нас. Людзі шукаюць Бога, бо неабходны ім як лекар. Бачаць у Ім кагосьці патрэбнага, хоць не разумеюць, хто Ён на самой справе.*

*Пане Езу Хрысце, навучы мяне нястомна шукаць Цябе, а пасля таго, як знайду, здолець затрымаць у сэрцы. Памятай пра мяне заўсёды, міласэрны Пане.*

***14 лютага – VI Звычайная нядзеля***
***Мк 1, 40–45***

Прыйшоў да Езуса пракажоны і, упаўшы на калені, прасіў Яго: "Калі хочаш, можаш мяне ачысціць". Езус, злітаваўшыся над ім, працягнуў руку, дакрануўся да яго і сказаў яму: "Хачу, будзь ачышчаны". І адразу ж проказа сышла з яго, і ён стаў чысты. Езус строга перасцярог яго і адразу адправіў, кажучы: "Глядзі, нікому нічога не кажы; але ідзі, пакажыся святару і дай ахвяру за ачышчэнне сваё, як загадаў Майсей, для сведчання ім". Але ён, выйшаўшы, пачаў абвяшчаць і шмат расказваць пра падзею, так што Езус не мог ужо адкрыта ўвайсці ў горад, але быў здалёк, у пустэльных мясцінах. І прыходзілі да Яго адусюль.

### Бог дае нам тое, што неабходна

*Людзі ў кантакце з Богам прымаюць розныя паставы. Ёсць тыя, хто не вельмі верыць, што Пан можа выслухаць іх малітвы. Яны лічаць сябе грэшнікамі і думаюць, што Найвышэйшы слухае толькі чыстых і дасканалых. Такім чынам, яны лёгка паддаюцца расчараванню і сыходзяць са шляху, які вядзе да Бога. Ёсць і тыя, хто няспынна закідвае Пана просьбамі і патрабаваннямі. Аднак калі яны прыходзяць да высновы, што іх не пачулі, крыўдзяцца на свайго Творцу і вельмі часта адыходзяць ад Яго.*

*Герой Евангелля дае нам прыклад таго, як павінны маліцца і як мусіць выглядаць наша малітва. Адзначаны смяротнай хваробай, ён не губляе надзеі, і калі ў полі яго зроку з'яўляецца Езус, падае перад Ім на калені і просіць аздаравіць. Аднак робіць гэта не назойліва. Ён глыбока перакананы, што Божы Сын здольны яго вылечыць. І адначасова лічыцца з тым, што Провід можа мець зусім іншыя планы адносна яго. Таму да Езуса звяртаецца з пакорнай просьбай: "калі хочаш", такой далёкай ад загаду: "мусіш".*

*Пастава гэтага чалавека вучыць нас, што ў любой сітуацыі (у тым ліку перад абліччам цяжкай хваробы) неабходна мець мужнасць звярнуцца да Бога за дапамогай. Тым не менш, мы не можам патрабаваць ад Яго выканання сваіх просьбаў паводле загадзя вызначанага намі плана. Бог сам лепш ведае, што патрэбна кожнаму чалавеку, і дае тое, што неабходна для яго збаўлення.*

*Езу Хрысце, у кожнай сітуацыі свайго жыцця хачу звяртацца да Цябе ў патрэбах душы і цела. Адары мяне гэтай ласкай, калі яна неабходна мне для збаўлення.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ШЧУПАЛУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці ў святарскай паслузе, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа ў абвяшчэнні Божага слова і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас, а Найсвяцейшая Маці трымае ў сваёй апецы.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новай Руды*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ МЯТЛІЦКАМУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаю сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, адорвае здароўем, поспехамі і сілай, Маці Божая пануе ў сэрцы, а Пан Езус крочыць разам з Вамі па выбраным шляху і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЯНЦІНУ ХВЕДУКУ**

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог дапамагае Вам заўсёды і адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі. Жадаем няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых і зычлівых людзей побач.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Беліцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЭРНЭСТУ МІКАЛАЙЧЫКУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і аддакай паслузе Богу і людзям. Жадаем, каб Ваша духоўная моц узрастала з кожным днём, а прамень Божай ласкі заўсёды ззяў над галавой. Няхай на Вашай дарозе святарства заўсёды гарыць агонь веры і надзеі. Здзяйснення ўсіх мар, добразычлівых людзей побач і моцнай веры!*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**ДАРАГОМУ СЫНУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай кожны дзень старанннай працы будзе асвечаны святлом Святога Духа, а Бог заўсёды Цябе аберагае і ўзнагароджвае за ўсё праз нашы малітвы.*

*Мама і тата*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, радасці і надзеі. Няхай дарога, якую Вы выбралі, будзе шчаслівай і добрай, каб маглі шчыра служыць Пану і людзям. Няхай Вамі заўсёды апекуецца Бог Айцец і Божы Сын, Святы Дух удзяляе свае дары, а Панна Марыя будзе побач і ў горкі, і ў радасны час. Мы будзем маліцца да вечнага Бога аб шчасці і здароўі для Вас.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Нараджэння НПМ у Дудах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ВАРАБ'ЁВУ**

*з нагоды дня нараджэння і надыходзячых імянін складаем мноства сардэчных пажаданняў: добрага здароўя, сіл у распаўсюджванні Божага Валадарства на зямлі, радасці ў святарскай паслузе, моцнай веры, непахіснай надзеі і апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка.*

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ШЧУПАЛУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем усяго найлепшага. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая і святы заступнік нястомна Вамі апекуюцца. Няхай здароўе будзе моцным, радасць штодзённай, сілы бясконцымі, а сэрца надалей застаецца добрым і адкрытым на Бога і людзей.*

*Сем'і Заяц і Пешкун*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РЭДАКТАРУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ І ЎСЁЙ СЯМ'І МАРЦІНОВІЧ**

складаем словы шчырага жалю ў сувязі са смерцю мамы. Няхай усемагутны Бог як мага хутчэй прыме душу памерлай у свае Валадарствa, а Вам дадасць сіл, каб вытрымаць боль, што перапаўняе сэрца.

*З малітвай рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ**

складаем шчырыя словы спачування і жалю ў сувязі з адыходам мамы да дому Пана. Яднаемся з Вамі ў малітве аб вечным супакоі для яе душы!

*Вернікі парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай у Гродне*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ**

ў сувязі са смерцю мамы перасылаем словы спачування і хрысціянскай падтрымкі. Няхай Пан Бог прыме яе ў свае Валадарства.

*Парафіяне касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ**

складаем шчырыя спачуванні і словы глыбокага жалю ў сувязі са смерцю мамы.

*Вернікі з Макараўцаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ І ЎСІМ РОДНЫМ**

хочам выказаць словы шчырага жалю, спачування і падтрымкі ў сувязі са смерцю блізкага Вашаму сэрцу чалавека – мамы. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дасць сілы, каб перажыць цяжар страты. Вечны супакой для памерлай!

*Сям'я Гайдзіс*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ**

перасылаем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі са смерцю мамы. Вечны супакой дай ёй, Пане!

*Вернікі з капліцы Сураж*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ

CATHOLIC.BY

**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У капліцы Душпастырскага цэнтра грэка-каталіцкай парафіі св. Праведнага Язэпа ў Мінску прайшла міжканфесійная духоўная сустрэча мужчын. Спатканне адбылося ў межах Тыдня малітвы аб адзінстве хрысціян. Узначаліў сустрэчу Апостальскі візітатар для беларускіх грэка-католікаў архімандрыт Сяргей Гаек. Удзельнічалі грэка-католікі, рымакатолікі і праваслаўныя вернікі.

Між іншым, сустрэча была прысвечана малітве за Беларусь. У атмасферы сапраўднага хрысціянскага братэрства былі ўзнесены шчырыя прашэнні за нашу краіну: аб спыненні грамадска-палітычнга крызісу і пандэміі Covid-19. На завяршэнне спаткання ўдзельнікі разам праспявалі "Магутны Божа" – духоўны гімн Беларусі.

Каталіцкі ВЕСНІК

**рэлігійны часопіс**

Калі навагоднія і калядныя святы праходзяць, у галаве ўзнікае вялікі спіс мар, якія мы падрыхтавалі да здзяйснення ў наступіўшым годзе. Аднак, згодна са статыстыкай, 24% з тых, хто будаваў грандыёзныя планы на жыццё ў новым годзе, кідаюць іх рэалізацыю ўжо ў першыя тыдні студзеня. Каб падобнага не адбывалася, трэба памятаць некалькі важных правіл.

Менш мройце і больш дзейнічайце. Дзяліце мэты на драбнейшыя задачы. Плануйце канкрэтна: паэтапна распісвайце дасягненне жадаемага. Будзьце гатовы да складанасцей і не абвінавачвайце сябе, калі штосьці пайшло не так. Падзяліцеся сваімі планамі з блізкімі. Адшукайце ўнутраны баланс, каб мець час на намаганні і адпачынак.

Radio Vaticana

**беларуская рэдакцыя**

Згодна з motu proprio папы Францішка "Spiritus Domini", жанчыны афіцыйна атрымалі доступ да паслуг лектарату і акалітату. Ужо не адно дзесяцігоддзе жанчыны чытаюць Божае слова падчас літургічных цэлебрацый, аднак такое служэнне выконваецца імі без інстытуцыйнага мандата, у абход рашэння папы Паўла VI, які ў 1972 годзе захаваў доступ да лектарату і акалітату выключна для мужчын.

Разам з тым, папа Францішак нагадаў словы св. Яна Паўла II пра тое, што "Касцёл ніякім чынам не можа ўдзяляць прэзбітэрскае пасвячэнне жанчынам". У сваю чаргу доступ вернікаў абодвух полаў да паслуг лектарату і акалітату зробіць больш плённым удзел усіх у евангелізацыйнай дзейнасці.

GRODNENSIS.BY

**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

27 студзеня адзначаўся Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту. У гэты дзень у 1945 годзе былі вызвалены адзін з самых страшных канцлагераў II Сусветнай вайны – Аўшвіц-Біркенаў, куды вывезлі і вялікую колькасць гродзенскіх яўрэяў (з 29 тысяч іх у жывых засталося толькі каля 200 чалавек).

У Гродне адзначыць памятную дату разам з прадстаўнікамі яўрэйскай абшчыны прыйшлі, паміж іншым, і прадстаўнікі духавенства. Сустрэча адбылася пры ўваходзе ў былое гета. Ад імя Каталіцкага Касцёла прысутнічаў віцэ-канцлер Гродзенскай курыі кс. канонік Антоній Грэмза.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 411; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.